

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!


# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады

г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. = Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 8 (109) | 15 мая 1931 г. | № 8 (109)




## З Ь М Е С Т.


**Пастановы Урадавай Камісіі пры СНК БССР па пераводу прадпрыемстваў на 7-гадзінны рабочы дзень.**

31. Пра абвяшчэньне сьпісу № 1 прадпрыемстваў, якія пераводзяцца на 7-гадзінны рабочы дзень.
32. Пра абвяшчэньне сьпісу № 2 прадпрыемстваў, якія пераводзяцца на 7-гадзінны рабочы дзень.
33. Пра абвяшчэньне сьпісу № 3 прадпрыемстваў, якія пераводзяцца на 7-гадзінны рабочы дзень.

**Пастановы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.**

34. Пра прыцягненьне да абкладаньня прамысловым падаткам у %%-ных адносінах да звароту прыватных уласьнікаў сэпаратараў.
35. Ліст старшыням райвыканкомаў і гарсаветаў БССР пра мерапрыемствы для ўзмацненьня фінансавага апарату.

**Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.**

36. Пра ўмовы працы інвалідаў, працуючых у каперацыйных арцелях.
37. Пра абвяшчэньне адзіных усесаюзных расцэнак на грабарныя работы на 1931 г.
38. Пра ўніфікацыю заработнае платы на мэліарацыйных работах.
39. Пра невыкананьне дзяржаўнымі, гаспадарчымі і каперацыйнымі арганізацыямі пастановы аб'яднанага пасяджэньня прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б) і Калегіі НК РСІ СССР за 23/XII-1930 г., пастановы НКП СССР за 19/I-1931 г. і пастановы ЦКК і Калегіі НК РСІ БССР пра скарыстаньне адпачынкаў на працягу ўсяго году.
40. Пра парадак дачы водпускаў рабочым і служачым, якія навучаюцца на вячэрніх аддзяленьнях ВНУ і тэхнікумаў.

**Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.**

41. Пра парадак выкананьня прысудаў аб высылцы.




## Пастановы Урадавай Камісіі пры СНК БССР па падрыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дню.

### 31. Пра абвяшчэньне сьпісу № 1 прадпрыемстваў, якія пераводзяцца на 7-гадзінны рабочы дзень.

Урадавая Камісія пры СНК БССР па падрыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дню пастанаўляе:

1. Перавесьці на 7-гадзінны рабочы дзень у 1931 г. наступныя прадпрыемствы па рэспубліканскай прамысловасьці, пералічаныя ніжэй у сьпісе № 1:

СЬПІС № 1

прадпрыемстваў рэспубліканскай прамысловасьці.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Пяпяровая фабрыка „Спартак“ | г. Шклоў | 2 квартал |
| 2. | „ „ „Прафінтэрн“ | г. Барысаў | 3 „ |
| 3. | Друкарня „Камінтэрн“ | г. Віцебск | 2 „ |
| 4. | Завод „Краскацьвет“ | м. Лояў | 3 квартал |
| 5. | Каніфольна-шкіпінарны завод | г. Нова-Беліца | 3 „ |
| 6. | Ляка-палітурны завод | г. Нова-Беліца | 4 „ |
| 7. | Фанэрны завод „Дняпро“ | г. Рэчыца | 2 „ |
| 8. | Фабрыка „Везувій“ | г. Нова-Беліца | 2 „ |
| 9. | Завод „Ільліч“ (шкляны) | Быхаўскі раён | 2 „ |
| 10. | „ „Ноўка“ „ | Віцебскі раён | 3 „ |
| 11. | „ „Кастрычнік“ | Свіслацкі раён | 4 „ |
| 12. | Фабрыка „Дзьвіна“ | г. Віцебск | 2 „ |
| 13. | Завод „Чырвоны Мэталіст“ | г. Віцебск | 2 „ |
| 14. | „ „Чырвонае Адраджэньне“ | г. Магілеў | 2 „ |
| 15. | „ „Чырвоны Кастрычнік“ | г. Ворша | 2 „ |
| 16. | „ імя Сталіна | г. Бабруйск | 2 „ |
| 17. | „ „Рухавік Рэвалюцыі“ | г. Гомель | 2 „ |
| 18. | „ „Камінтэрн“ | г. Віцебск | 4 „ |
| 19. | Швэйная фабрыка „Камінтэрн“ | г. Гомель | 2 „ |
| 20. | „ „ „Прафінтэрн“ | г. Віцебск | 3 „ |
| 21. | Аўчына-шубная фабрыка | г. Гомель | 2 „ |
| 22. | Абутковая фабрыка | г. Гомель | 2 „ |
| 23. | Рымарна-сядзельная фабрыка | г. Магілеў | 2 „ |
| 24. | Лесазавод „Камінтэрн“ | | 2 „ |
| 25. | „ „імя Томскага“ | | 2 „ |
| 26. | „ „Сацыялізм“ | | 2 „ |
| 27. | „ „Чырвоны Пагранічнік“ | | 2 „ |
| 28. | „ „Адраджэньне“ | | 3 „ |
| 29. | „ „імя Фрунзэ“ | | 3 „ |
| 30. | „ „імя Вароўскага“ | | 4 „ |
| 31. | „ „Пралятары“ | Пасьля сканчэньня рамонту. | |

Старшыня Урадавай Камісіі **Пушчын.**

Адказны Сакратар **Гольдзінберг.**

27 сакавіка 1931 г.

**32. Пра абвяшчэньне сьпісу № 2 прадпрыемстваў, якія пераводзяцца на 7-гадзінны рабочы дзень.**

Урадавая Камісія пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Перавесьці на 7-гадзінны рабочы дзень у 1931 г. наступныя прадпрыемствы прамысловасьці НКСнабу БССР, пералічаныя ніжэй у сьпісе № 2:

СЬПІС № 2

прадпрыемстваў НКСнабу, якія падлягаюць пераводу на 7-гадзінны рабочы дзень у 1931 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Шчотачная фабрыка | г. Менск | 2 квартал |
| 2. | " " | г. Віцебск | 2 " |
| 3. | Млын Саюзхлеба | г. Гомель | 3 " |
| 4. | Мясакамбінат | г. Менск | 3 " |
| 5. | " " | г. Віцебск | 3 " |
| 6. | " " | г. Магілеў | 4 " |
| 7. | Жывёла-бойня | г. Полацк | 4 " |
| 8. | " " | г. Бабруйск | 4 " |

Старшыня Урадавай Камісіі **Пушчын.**

Адказны Сакратар **Гольдзінберг.**

27 сакавіка 1931 г.

**32. Пра абвяшчэньне сьпісу № 3 прадпрыемстваў, якія пераводзяцца на 7-гадзінны рабочы дзень.**

Урадавая Камісія пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Перавесьці на 7-гадзінны рабочы дзень у 1931 г. наступныя прадпрыемствы мясцовай прамысловасьці, падпарадкаваныя райвыканкомамі гарсаветам, пералічаныя ніжэй у сьпісе № 3:

СЬПІС № 3

прадпрыемстваў РВК і гарсаветаў, якія падлягаюць пераводу на 7-гадзінны рабочы дзень у 1931 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Эльвод | г. Менск | 2 квартал |
| 2. | Электрастанцыя | г. Віцебск | 2 " |
| 3. | Вада-сьвет | г. Гомель | 2 " |
| 4. | Электрастанцыя | г. Бабруйск | 3 " |
| 5. | Вяровачна-лямцавая фабрыка | г. Менск | 2 " |
| 6. | Фабрыка гнутай мэблі | г. Віцебск | 2 " |
| 7. | Лямцавая фабрыка | г. Віцебск | 2 " |
| 8. | Лесазавод і калодачная фабрыка | г. Барысаў | 2 " |
| 9. | Лесазавод Прамтрэсту | г. Ворша | 2 " |
| 10. | Мэблява-мэтравая фабрыка | г. Магілеў | 2 " |
| 11. | Кандзіцерская фабрыка | м. Нароўля | 2 " |
| 12. | Усе прадпрыемствы Гомсельхарчпрому | | 2 " |
| 13. | Скурана-галянтарэйная фабрыка „Усход“ | г. Менск | 3 " |
| 14. | Лесазавод № 3 Горкамбінату | г. Віцебск | 3 " |
| 15. | Рамонтна-гісэрны завод Горкамбінату | г. Барысаў | 3 " |
| 16. | Фабрыка ўнітазных дошак | г. Мазыр | 3 " |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 17. Мэблявая фабрыка Прамтрэста | г. Мазыр | 3 | квартал |
| 18. Мэблявая фабрыка „імя Халтурына" | г. Бабруйск | 3 | „ |
| 19. Камбінаваная майстэрня | г. Бабруйск | 3 | „ |
| 20. Лесазавод | г. Жлобін | 3 | „ |
| 21. „ | г. Шклоў | 3 | „ |
| 22. Сельскагаспадарчыя рамонтныя майстэрні | г. Полацк | 3 | „ |
| 23. Рымарная фабрыка | г. Гомель | 3 | „ |
| 24. Панчошна-трыкатажная фабрыка | г. Гомель | 3 | „ |
| 25. Лесазавод „Стайкі" | Багушэўскі раён | 3 | „ |
| 26. Лесазавод „Гарадок" | | 3 | „ |
| 27. Абутковая майстэрня | г. Менск | 4 | „ |
| 28. Панчошна-трыкатажная ф-ка „Чырвоны Тэкстыльшчык" | г. Менск | 4 | „ |
| 29. Інструментальна-мэблявая фабрыка | г. Віцебск | 4 | „ |
| 30. Абутковая ф-ка Горкамбіната | г. Віцебск | 4 | „ |
| 31. Мэханічны завод Прамтрэсту | г. Ворша | 4 | „ |
| 32. Мукамольна-лесазавод „Зорка" | г. Магілеў | 4 | „ |
| 33. Лесазавод | м. Койданава | 4 | „ |
| 34. Лесазавод | м. Сураж | 4 | „ |
| 35. Фабрыка „Казімі" | г. Гомель | 4 | „ |

Старшыня Урадавай Камісіі **Пушчын.**

Адказны Сакратар **Гольдзінберг.**

27 сакавіка 1931 г.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 34. Пра прыцягненьне да абкладаньня прамысловым падаткам у процантных адносінах да звароту прыватных уласьнікаў сэпаратараў.

На падставе арт. 5 агульных заўваг да росьпісу прадпрыемстваў і промыслаў, якія абкладаюцца ў цьвёрдых стаўках (дадатак 1 да Палажэньня пра прамысловы падатак з прыватных прадпрыемстваў і промыслаў за 2/IX-1930 г.—З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 481), па ўзгадненьні з ВСНГ і НКСнабам БССР і Белсампрамсаюзам, Народны Камісарыят Фінансаў БССР, у дадатак да сваёй пастановы за 15/IX-1930 г. (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 20, паст. 164) пастанаўляе:

1. Прыцягнуць да абкладаньня прамысловым падаткам у процантных адносінах да звароту прыватных уласьнікаў сэпаратараў, якія перапрацоўваюць чужое (не сваёй гаспадаркі) малако.

2. Гэтую пастанову ажыцьцявіць з 1 студзеня 1931 г.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Абрамсон.**

Кіраўнік Сэктару па прыцягненьні сродкаў насельніцтва НКФ БССР **Айзінсон.**

13 красавіка 1931 г.

## 35. Ліст старшыням райвыканкомаў і гарсаветаў пра мерапрыемствы для ўзмацненьня працы фінансавага апарату.

У сувязі з пастаўленымі перад фінапаратам важнейшымі задачамі па мабілізацыі сродкаў, выкананьні фінпляну, крэдытнай рэформе і новаму парадку крэдытаваньня, па сваечасоваму збору падаткаў і г. д. вельмі востра паўстала пытаньне аб узмацненьні фінапарату кваліфікаванымі спэцыялістымі. Дырэктыўныя паказаньні кіруючых органаў абавязваюць узмацніць фінапарат кваліфікаванымі кадрамі, зьвярнуць у фінапарат работнікаў, якія перайшлі з фінсыстэмы ў іншыя ведамствы, правесьці шэраг мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы фінработнікаў і г. д. Нажаль, прыходзіцца адзначыць, што некаторыя кіруючыя раённыя органы не ўдзяляюць гэтаму вельмі важнаму пытаньню належнай увагі і замест дакладнага выкананьня гэтых дырэктыўных паказаньняў займаюцца разбазарваньнем фінработнікаў, зьнімаюць работнікаў з фінапарату і накіроўваюць іх на іншую працу, як, напр., Асьвея, Ушачы, Нараўляны, Чырвоная Слабада і інш. Дырэктывы кіруючых органаў аб забароне мабілізацый фінработнікаў на іншыя кампаніі, не зьвязаныя з фінпрацай, мясцовымі органамі ігнаруюцца. Па маючыхся зьвестках, некаторыя РВК у адзін час зьнімаюць усіх адказных работнікаў Райфа і накіроўваюць у с/саветы на іншыя кампаніі. Даныя, якія маюцца па 28 раёнах, паказваюць, што за час студзень, люты і палова сакавіка мабілізавана 62 работнікі па 73 розных кампаніях. Ёсьць выпадкі, калі работнікі адрываюцца ад сваёй ненасрэднай працы на 1—3 м-цы (Уваравічы, Талачын, Жыткавічы, Капаткевічы, Сураж, Сенна).

Лічачы гэтыя факты недапушчальнымі і ідучымі ў разрэз з дырэктывамі кіруючых органаў і прымаючы пад увагу зусім нездавальняючае становішча з выкананьнем фінпляну і слабасьць фінансавай і бюджэтнай работы ў раёнах, прашу:

1) Спыніць разбазарваньне фінработнікаў і ўжыць захады да ўзмацненьня фінапарату найбольш здольнымі работнікамі раёну.

2) З прычыны нездавальняючага выкананьня фінпляну не адрываць фінансавых работнікаў ад сваёй непасрэднай працы на розныя кампаніі.

3) Стварыць спрыяючыя ўмовы працы для фінансавага апарату і аказаць яму належную дапамогу ў яго рабоце.

4) Дапамагчы Наркамфіну ў правадзімых мерапрыемствах па падрыхтоўцы кадраў у напрамку адбору лепшых кандыдатаў, забясьпечаньні міжраённых фінансавых курсаў неабходным памяшканьнем, выкладчыкамі, рознага віду забясьпечаньнем і г. д.

Усе гэта патрэбна для ўзмацненьня раённага фінансавага апарату, які павінен працаваць па-ўдарнаму на важнейшым вучастку выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

Народны Камісар Фінансаў БССР **А. Хацкевіч.**

20 красавіка 1931 г.
Інд. КП—20

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

**36. Пра ўмовы працы інвалідаў, працуючых у каперацыйных арцелях.**

На падставе пастановы НК Працы СССР за 7 жніўня 1930 г. № 460 пра ўмовы працы інвалідаў, працуючых у каперацыйных арцелях, НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Умовы працы членаў каперацыйных арцеляў інвалідаў, працуючых у арцелах, рэгулююцца гэтай пастановай.

2. На членаў арцеляў, якія працуюць у сябе дома, гэта пастанова не распаўсюджваецца.

3. Умовы працы рабочых і служачых, працуючых у інвалідных арцелях у парадку найму, рэгулююцца агульным заканадаўствам.

4. Умовы працы падлеткаў і вучняў, працуючых у каперацыйных арцелях інвалідаў, рэгулююцца правіламі аб умовах працы вучняў у прамысловай капярацыі

5. Працяг нармальнага рабочага часу ў каперацыйных арцелях інвалідаў ня можа быць звыш 8 гадзін.

6. Праца членаў арцеляй у шкодных прадпрыемствах і праца ў начны час рэгулююца агульным заканадаўствам.

7. Парадак аплаты працы членаў каперацыйных арцеляў інвалідаў, разьмер і формы устанаўляюцца праўленьнямі арцеляў у суадпаведнасьці з дырэктыўнымі паказаньнямі Белкапінсаюзу.

8. Члены каперацыйных арцеляў інвалідаў карыстаюцца чарговымі адпачынкамі ў разьмеры 12 рабочых дзён у год, а занятыя на асабліва шкодных і небясьпечных работах апроч таго маюць права карыстацца дадатковымі адпачынкамі ад 6 да 12 рабочых дзён, прычым адпачынкі павінны давацца на працягу ўсяго году.

Увага. Каляндарны расклад адпачынкаў устанаўляецца праўленьнямі арцеляў.

9. Забараняецца ўжываньне працы жанчын і непаўналетніх у асабліва цяжкіх і шкодных вытворчасьцях; сьпісы гэтых вытворчасьцяй устанаўляюцца з падлікам асаблівасьцяй інваліднай працы Белкапінсаюзам прыстасавальна да сьпіскаў НК Працы, ўзгадняюцца НКСЗ і зацьвярджаюцца НК Працы БССР.

10. Цяжарныя жанчыны, пачынаючы з 6 мес. цяжарнасьці, жанчыны, што кормяць грудзьмі, а таксама і няпаўналетнія, не дапушчаюцца да звышмерных і начных работ.

11. У прадпрыемствах і майстэрнях, якія перайшлі на 7-гадзіны рабочы дзень, цяжарныя жанчыны не дапушчаюцца да начных работ з 6 мес. цяжарнасьці, а жанчыны, якія кормяць грудзьмі—на працягу першых 6 мес. кармленьня.

12. Цяжарныя жанчыны, занятыя фізычнай працай, аслабаняюцца ад працы на працягу 56 дзён ад родаў і 56 дзён пасьля родаў, а заняты разумовай прцай—на працай 42 дзён да родаў і 42 дзён пасьля родаў.

13. Цяжарныя жанчыны, пачынаючы з 3-га мес. цяжарнасьці, ня могуць пасылацца ў камандыроўку бяз іх на гэта згоды.

14. Для матак, якія кормяць грудзьмі, устанаўляюцца апроч агульных перапынкаў у час працы, дадатковыя перапынкі для кармленьня дзіцяці; гэтыя перапынкі ня могуць быць менш поўгадзіны і прадастаўляюцца не радзей, як праз кожныя 3½ гадз. працы. Парадак карыстаньня гэтым пунктам устанаўляецца правіламі ўнутранага парадку арцеляў.

15. Выдадзеная НК Працы СССР пастанова пра правілы па тэхніцы бясьпекі і прамысловай санітарыі, распаўсюджваецца толькі на вытворчыя прадпрыемствы і майстэрні арцеляў інвалідаў. Правядзеньне у жыцьцё гэтых правіл і пастаноў ускладаецца на праўленьні арцеляў.

16. Праўленьні арцеляў кіруюцца пры гэтым асобнымі інструкцыямі, якія распрацоўваюцца Белкапінсаюзам і зацьвярджаюцца НК Працы БССР.

17. Членам арцеляў, якія заняты на асабліва шкодных работах, або на работах, якія зьвязаны з знаходжаньнем у ненармальных тэмпэратурах і забрудненьнем цела, а таксама па патрабаваньнях грамадзкай гігіены, павінна выдавацца за лік арцелі спэцвопратка па нормах, устаноўленых НК Працы БССР.

18. Праўленьні арцеляў інвалідаў павінны вывесіць у адпаведных пакоях ва ўсіх месцах працы існуючыя у арцелях пастановы і правілы пра ўмовы працы.

19. Для нагляду за правядзеньнем у арцелях абавязковае пастановы пра тэхніку бясьпекі і прамысловай санітарыі вылучаюцца спэцыяльныя асобы. Гэтыя асобы або органы працы на мясцох могуць заключаць з праўленьнямі арцелі згоды аб парадку і тэрмінах правядзеньня больш буйных мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі і прамысловай санітарыі. У выпадку недасягненьня згоды паміж вылучанай асобай па тэхніцы бясьпекі або інспэкцыяй працы і праўленьнем арцелі па пытаньні правядзеньня мерапрыемстваў па тэхніцы бясьпекі, спрэчкі канчаткова вырашаюцца ў асобнай камісіі пры мясцовым органе сацыяльнага забясьпечаньня. Пастанова гэтай камісіі зьяўляецца канчатковай.

20. Нагляд за правядзеньнем у жыцьцё гэтае пастановы ускладаецца на раённыя інспэкцыі працы.

21. Умовы працы, не прадугледжаныя гэтай пастановай, рэгулююцца агульным заканадаўствам аб працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Загад. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **В. Марозаў.**

20 **сакавіка** 1931 г.
№ 15|33.

**37. Пра абвяшчэньне адзіных усесаюзных расцэнак на грабарныя работы на 1931 год.**

НК Працы БССР пастанаўляе абвясьціць для абавязковага ўжываньня ўсімі гаспадарчымі і будаўнічымі арганізацыямі адзіныя ўсесаюзныя расцэнкі на грабарныя работы на 1931 год, зацьверджаныя НК Працы СССР 23 сакавіка 1931 г. Гэтымі расцэнкамі трэба няўхільна кіравацца па ўсёй тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

12 красавіка 1931 г.
№ 15212/4

Дадатак.

**Адзіныя ўсесаюзныя расцэнкі на грабарныя работы на 1931 г.**

**I. Агульныя правілы.**

1. Гэтыя расцэнкі распрацаваны на падставе сумеснай дырэктывы ЦК УсеСБР Саюзбуду і НКШЗ за 3/XI-30 г., сьцьверджаны пастановай Будсэктару Дзяржпляну СССР за сьнежань 1930 г. № 12, зацьверджаны Усесаюзнай Міжведамсьцьвенай камісіяй пры Саюзбудзе і ўзгоднены з Усекампрамсаветам і НК Працы СССР.

2. Адзіныя усесаюзныя расцэнкі зьяўляюцца абавязковымі для ўжываньня на ўсіх відах будаўніцтва (прамысловага, жыльлёвага, грамадзкага і г. д.) усіх ведамстваў і арганізацый абагуленага сэктару народнае гаспадаркі на ўсёй тэрыторыі СССР. Самавольнае парушэньне расцэнак будзе прасьледвацца ў крымінальным парадку.

3. На тэрыторыі РСФСР у частцы Татарскай АССР, Ніжня- і Сярэдне Волжскіх краёў і ЦЧО адзіныя рэспубліканскія расцэнкі ўжываюцца з каэфіцыэнтам 0,90, а ў Крымскай АССР—з каэфіцыэнтам 0,95.

На ўсёй тэрыторыі Украінскай СССР гэтыя расцэнкі ўжываюцца з каэфіцыэнтам 0,90 за выключэньнем Данбасу, Днепракамбінату, Трактарабуду гор. Харкава і яго раёну, для якіх паніжаны каэфіцыэнт ня ўжываецца.

4. Адзіныя ўсесаюзныя расцэнкі складзены на падставе „Адзіных норм выпрацоўкі“ па будаўнічай вытворчасьці, зацьверджаных пастановай Будсэктару Дзяржпляну СССР 28 лістапада 1930 г. за № 9, а ў частцы работ, неахопленых адзінымі нормамі—на падставе адзіных расцэнак асобных вобласьцяў СССР за 1930 г. і тэхніка-нарміровачных работ бударганізацый з прыняцьцем пад увагу дырэктывы Ураду аб падвышэньні вытворчасьці працы, заработнай платы і зьніжэньня сабекошту.

5. Расцэнкі прадугледжваюць звычайныя ўмовы працы.

6. Пры таблічнай форме расцэнак верхнія (чорныя) лічбы паказваюць цану ў капейках, а ніжнія—дзённую норму выпрацаўкі у паказаных вымерніках:

Прыклад: $\frac{18}{17,8}$, што паказвае 18 кап. і 17,8 кв. м.

**II. Агульныя правілы і ўвагі для работ на коннай (грабарнай) возцы.**

1. Пад назвай „грабар“ разумеецца рабочая сіла, што забясьпечвае поўнае скарыстаньне аднаго грабарскага каня пры розных нормалах і заключае ў сябе работу па разрыхленьні грунту, накладваньні яго на грабаркі, кіраваньне канём, вывалцы з грабаркі і разраўненьні з падлікам захаваньня ўстаноўленага фізычнага адпачынку.

2. Для грабара ў расцэнкі ўключаны адпачынак у разьмеры 30 проц.

3. Расцэнкамі прадугледжана работа як кіеўскіх і міаскіх грабароў, а таксама і іншых арганізацый, дзе у першых работа праводзіцца адным грабаром, які робіць усе апярацыі без усялякай дапаможнае рабсілы, а ў другіх—апярацыі—разрыхленьне і накладваньне грунтаў на павозку—праводзіцца аднэй групай, возка—другой, разраўніваньне—трэцяй групай людзей з падлікам захаваньня ўстаноўленага фізыолёгічнага адпачынку ва ўсіх груп людзей і працуючых коняў.

Расцэнкі прадугледжваюць работу аб'ёмам ня менш аднадзённай выпрацоўкі аднаго рабочага на адным месцы работ і дадзены на вымернік у плотным целе грунтаў.

Абмер земляных работ робіцца па профілях, зьнятых у характэрных кропках, г. зн. у кропках паміж якімі зьмена асноўных вымернікаў землянога цела робіцца раўнамерна.

Расцэнкі прадугледжваюць грунты з прыроднай (сярэдняй) вільготнасьцю, г. зн., грунты, якія не знаходзяцца ў час распрацоўкі пад непасрэднай дзейнасьцю грунтавых, праточных, дажджавых і іншых вод.

Грунты, якія ляжаць ніжэй узроўню грунтавых вод, лічацца насычанымі вадою звыш нармальнага, калі няма прыладаў для іх асушкі (дрэнаж, насосы, студні з больш нізкімі адзнакамі).

Для мокрых грунтаў, якія моцна прыстаюць да інструмэнту (з вільгацьцю 50—60 проц.) ужываюцца каэфіцыэнты:

а) для грунтаў груп I—V . . . К—1,15/0,87;

б) „ „ „ VI—VIII . . . К—1,30/0,77.

4. Для вылічэньня расцэнак прыняты намінал у 4 р. 75 кап. у дзень (2 р. 32 кап. землякоп плюс 2 р. 43 кап. конь), які належыць ужываць пры разьліку з грабарамі пры аплаце за прастой па прычынах, якія не залежаць як ад самога грабара, так і ад будаўніцтва (прастой па кліматычных прычынах, перакідка грабароў з аднаго забою або месца работы ў іншае і да т. п.).

Расцэнкі установлены з разьліку паказанага наміналу ў 4. 75 к. з разьліковым каэфіцыэнтам К—1,50.



### III. Клясіфікацыя грунтаў.

| Групы грунтаў | №№ грунтаў | Тыпавыя пароды грунтаў, якія вызначаюць групу | Сярэдняя вага 1 куб. м. грунту у плотным целе у клгр. |
|---|---|---|---|
| I | 1 | Торп без карэньняў . . . . . . . | 600 |
| | 2 | Рыхлы расьлінны грунт . . . . . | 1200 |
| | 3 | Пясок дробны (пры вялічыні зёран да 0,5 мм), які не патрабуе канапаткі закрапленьняў . . | 1400 |
| | 4 | Пясок сярэдні (пры вялічыні зёран 0,5 да 1 мм) . | 1500 |
| II | 1 | Пясок буйны (пры вялічыні зёран да 3 мм) . . | 1600 |
| | 2 | Пясок з нязначнаю колькасьцю прымешак . . | 1600 |
| | 3 | Расьлінны грунт (цаліна) . . . . . | 1400 |
| | 4 | Чарназём . . . . . . . . . | 850 |
| III | 1 | Супясок (пясок з прымешкаю гліны або расьліннага перагною да 30 проц.) . . . . | 1600 |
| | 2 | Лёгкія суглінкі (гліна з прымешкаю цяску да 40—50 проц.) . . . . . . . | 1600 |
| IV | 1 | Пясок зьмешаны са шчабянём і шчэпкамі . . | 1550 |
| | 2 | Дробны пясок, які патрабуе канапаткі закрапленьняў | 1400 |
| | 3 | Расьліны грунт, зьмешаны са шчабянём і шчэпкамі | 1650 |
| | 4 | Жвір дробны і сярэдні (пры вялічыні зёран 3—15 мм) | 1700 |
| | 5 | Будаўнічае сьмецьце ў рыхлым становішчы . . | 1700 |
| | 6 | Рыхлая дробная гарб . . . . . . . | 700 |
| V | 1 | Ушчыльнены расьлінны грунт (заежджаны) . . | 1500 |
| | 2 | Насыпны зьляжаўшыйся грунт з прымешкаю будаўнічага сьмецьця, шчабяню, галькі . . | 1750 |
| | 3 | Лёгкі суглінак і супясок, зьмешаны са шчабянём, шчэпкамі галькаю і будаўнічым сьмецьцем . | 1700 |
| VI | 1 | Жвір буйны (пры вялічыні зёран больш 15 мм) . | 1750 |
| | 2 | Цяжкія суглінкі (з прымешкаю пяску да 30--40проц.) | 1750 |
| | 3 | Тлустая чыстая гліна . . . . . . . | 1800 |
| | 4 | Торп і расьлінны грунт з карэньнямі ад хмызьняку | 800—1400 |
| VII | 1 | Зьляжаўшаеся будаўнічае сьмецьце . . . | 1850 |
| | 2 | Торп з карэньнямі ад дрэваў . . . . | 850 |
| | 3 | Расьлінны грунт з карэньнямі ад дрэваў . . | 1400 |
| | 4 | Зьпекшыся гарб і шлак . . . . . . | 1100 |
| | 5 | Мэргэлі і апокі . . . . . . . . | 1900 |
| VIII | 1 | Сланцавая гліна (неплястычная з прымешкаю кварцу) . . . . . . . . . | 2000 |
| | 2 | Цяжкая (ламавая) гліна др. парод . . . | 2000 |

| Групы грунтаў | №№ грунтаў | Тыпавыя пароды грунтаў, якія вызначаюць групу | Сярэдняя вага 1 куб. м. грунту ў плотным целе у клгр. |
|---|---|---|---|
| | 3 | Цяжкі суглінак з прымешкаю шчабяню, галькі і буд. сьмецьця . . . . . . | 1900 |
| | 4 | Тлустая гліна з прымешкаю шчабяню галькі і будаўнічага сьмецьця . . . . . | 1950 |
| IX | 1 | Зацьвярдзелая гліняная кара . . . . . | 2000 |
| | 2 | Мяккія вапнякі . . . . . . . | 2100 |
| | 3 | Мяккія пяшчанікі . . . . . . . | 2200 |
| | 4 | Мелавыя пароды . . . . . . . . | 2200 |
| | 5 | Мёрзлыя, расьлінныя, пяшчаныя супяшчаныя і суглінiстыя грунты . . . . . . | 1500 |
| X | 1 | Сланцы (шчыльныя, дробнаслойныя горныя пароды' якія пры распрацоўцы адкалваюцца тонкімі слаямі) . . . . . . . . . | 2300 |
| | 2 | Разборная скала . . . . . . . . | 2300 |
| | 3 | Мёрзлы жвір, цяжкія суглінкі і гліна . . . | 1900 |
| XI | 1 | Мёрзлыя глiністыя з прымешкамі, мёрзлыя шчабяністыя і каменістыя грунты . . . . | 2000 |
| | 2 | Цьвёрдыя вапнякі . . . . . . . | 2500 |
| | 3 | „ пяшчанікі . . . . . . | 2500 |
| | 4 | „ мармуры . . . . . . . | 2500 |
| XII | 1 | Суцэльная скала (гнейсы, граніты, парфіры, сініт, базальт, кварцавыя пароды. . . . . | 3000 |

ЗМ—1. Капаньне куб. мэтра грунту з рэзэрву або выемкі, а таксама з канаў пры шырыні ня менш 1,50 м. і незалежна ад глыбіні з накладаньнем грунту проста на грабаркі або вазы, якія падаюцца на дно выемкі, з перавозкаю, выгрузкай і разраўніваньнем на месцы звалкі і грубой пляніроўкай па заданаму профілю.

Склад работы:

1. Разрыхленьне грунту.
2. Накладваньне на грабаркі або вазы.
3. Перамяшчэньне.
4. Разгрузка.
5. Разраўніваньне на месцы звалкі з грубой пляніроўкай па заданаму профілю.
6. Зварот паражняком да месца нагрузкі.

**За 1 куб. мэтр грунту.**

| Групы грунтаў | Сярэдн. вага груп у клгр. | Адлегласьць перавозкі ў пагонных мэтрах | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 100 | 200 | 300 | 400 | 500 | 600 | 700 | 800 |
| I | 1400 | 51/14,0 | 60/11,8 | 69/10,3 | 78/9,1 | 87/8,2 | 96/7,4 | 105/6,8 | 114/6,2 |
| II | 1500 | 58/12,1 | 68/10,3 | 78/9,1 | 88/8,2 | 98/7,2 | 108/6,5 | 118/6,0 | 128/5,6 |
| III | 1600 | 61/11,8 | 72/10,0 | 83/8,6 | 94/7,5 | 105/6,8 | 116/6,2 | 127/5,6 | 138/5,2 |
| IV | 1650 | 65/11,0 | 76/9.3 | 87/8,2 | 98/7,2 | 109/6,5 | 120/6,0 | 131/5,4 | 142/5,0 |
| V | 1700 | 77/9,2 | 88/8,2 | 99/7,2 | 110/6,5 | 121/6,0 | 132/5,4 | 143/5,0 | 154/4,6 |
| VI | 1800 | 91/7,8 | 103/6,9 | 115/6,2 | 127/5,6 | 139/5,2 | 151/4,7 | 163/4,4 | 175/4,1 |
| VII | 1800 | 121/6,0 | 133/5,4 | 145/5,0 | 157/4,5 | 169/4,2 | 181/3,9 | 193/3,2 | 205/3,5 |
| VIII | 1950 | 145/5,0 | 158/4,5 | 171/4,2 | 184/3,8 | 197/3,6 | 210/3,4 | 223/3,2 | 236/3,0 |
| IX | 2100 | 163/4,4 | 177/4,0 | 191/3,7 | 205/3,5 | 219/3,2 | 233/3,1 | 247/2,8 | 261/2,7 |
| X | 2300 | 190/3,7 | 205/3,5 | 220/3,2 | 235/3,0 | 250/2,8 | 265/2,7 | 280/2,5 | 295/2,4 |
| XI | 2500 | 200/3,6 | 226/3,4 | 232/3,1 | 248/2,9 | 264/2,7 | 280/2,5 | 294/2,4 | 310/2,3 |
| XII | 3000 | 230/3,1 | 248/2,9 | 266/2,7 | 284/2,5 | 302/2,4 | 320/2,2 | 338/2,1 | 356/2,0 |

Увага. Пры перамяшчэньні грунту на прамежныя адлегласьці кошт перамяшчэньня вызначаецца інтэрналяцыяй.

ЗМ—2. Нагрузка папярэдне разрыхленага грунту на грабаркі або вазы, перавозка на апошніх да месца разгрузкі, звалка і зварот паражняком да месца нагрузкі.

### За 1 куб. мэтр грунту.

| Групы грунтаў | Сярэдн. вага грунт. у клгр. | Адлегласьць перавозкі ў пагонных мэтрах | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 100 | 200 | 300 | 400 | 500 | 600 |
| I, II, V | 1400 | 45/15,8 | 53/13,2 | 61/11,6 | 69/10,3 | 77/9,2 | 85/9,4 |
| III | 1300 | 40/17,8 | 48/14,8 | 56/12,7 | 64/11,1 | 72/9,9 | 80/8,9 |
| IV | 1450 | 51/14,0 | 59/12,1 | 68/10,5 | 76/9,4 | 84/8,5 | 92/7,4 |
| VI, VII, VIII | 1500 | 53/13,2 | 62/11,5 | 71/10,0 | 80/8,9 | 89/8,0 | 98/7,3 |
| IX | 1550 | 54/13,1 | 63/11,3 | 72/9,9 | 81/8,8 | 90/7,9 | 99/7,2 |
| X | 1700 | 58/12,1 | 67/10,7 | 76/9,4 | 85/8,4 | 94/7,6 | 103/6,95 |

Увага. Расцэнкі складзены з вагі і аб'ёму адзінкі вымерніку натуральна разрыхленага грунту.

### ЗМ—3. Ручная распрацоўка грунту.

Капаньне грунту з прыроднай вільготнасьцю з рэзэрваў, выемак і канаў з папярэднім, дзе патрэбна, разрыхленьнем уручную з накладаньнем проста на грабаркі або ваганеткі, якія падаюцца на дно распрацоўкі, з апрацоўкай адкосаў, паводле заданага профілю або шырыні выпрацоўкі ня менш 1,5 мэтраў, незалежна ад вышыні забою па абмеру грунту ў шчыльным целе.

**(Разрад работы 3).**

**За 1 куб. мэтр.**

| Групы грунтаў | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII |
| 23/15,4 | 26/13,6 | 30/11,8 | 38/9,1 | 41/8,4 | 53/6,6 | 67/5,2 | 78/4,4 | 100/3,5 | 118/2,9 | 147/2,4 | 240/1,4 |

Увага. Пры шырыні распрацоўкі зямлі ад 1,0 да 1,5 м., ужываецца паправачны каэфіцыэнт:

$$К = \frac{1,10}{0,91}$$

а пры шырыні ад 0,6 да 1,0—$К = \frac{1,25}{0,8}$

ЗМ—4. Перавозка грунту ў гарбарках з выгрузкай на месцы звалкі і сумеснай з забойшчыкам нагрузкай на месцы распрацоўкі.

Склад работы:

1. Перавозка грунту.
2. Выгрузка на месцы звалкі.
3. Нагрузка сумесна з забойшчыкам.

| Групы грунтаў | Адзін. вымерніку | Адлегласьць перамяшчэньня | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 100 | | 200 | | 300 | | 400 | | 500 | | 600 | |
| | | Цана | | | | | | | | | | | |
| | | Р. | к. | Р. | к. | Р. | к. | Р. | к. | Р. | к. | Р. | к. |
| I | М³ | — | 31 | — | 40 | — | 49 | — | 58 | — | 67 | — | 76 |
| II | " | — | 33 | — | 43 | — | 53 | — | 63 | — | 73 | — | 83 |
| III | " | — | 35 | — | 46 | — | 57 | — | 68 | — | 79 | — | 90 |
| IV | " | — | 37 | — | 48 | — | 59 | — | 70 | — | 81 | — | 92 |
| V | " | — | 38 | — | 49 | — | 60 | — | 71 | — | 82 | -- | 93 |
| VI | " | — | 38 | — | 50 | — | 62 | — | 74 | — | 86 | — | 98 |
| VII | " | — | 40 | — | 52 | — | 64 | — | 76 | — | 88 | 1 | 00 |
| VIII | " | — | 43 | — | 56 | — | 69 | — | 82 | — | 95 | 1 | 08 |
| IX | " | — | 47 | — | 61 | — | 75 | — | 89 | 1 | 03 | 1 | 17 |
| X | " | — | 51 | — | 66 | — | 81 | — | 96 | 1 | 11 | 1 | 26 |
| XI | " | — | 55 | — | 71 | — | 87 | 1 | 03 | 1 | 19 | 1 | 35 |
| XII | " | — | 66 | — | 84 | 1 | 02 | 1 | 20 | 1 | 38 | 1 | 51 |

Увага. Цэны на перавозку складзены на падставе вагі грунту ў плотным целе.

Пры перавозцы разрыхленага грунту расцэнку зьмяншаць адпаведна зьмяншэньню вагі разрыхленага грунту.

**ЗМ-5. Разраўніваньне грунту на месцы звалкі.**

Разраўніваньне грунту на месцы звалкі, грубая пляніроўка па заданаму профілю і вышынях.

| Расцэнкі ў кап. | | | УВАГА |
|---|---|---|---|
| Групы грунтаў | Адзінка вымерніку | Цана | |
| I, II, III | кб./мт. | 1,5 | |
| IV—V | " | 2 | |
| VI | " | 2,5 | |
| VII—VIII | " | 3 | |

## 38. Пра ўніфікацыю заработнае платы на мэліарацыйных работах.

Для ўстанаўленьня адзінай формы аплаты працы на мэліарацыйных работах па праводцы магістральных канаў і рэгуляваньні рэчак, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Увесьці на тэрыторыі БССР з 25 красавіка 1931 г. адзіныя расцэнкі аплаты працы на мэліарацыйных работах, паводле наступнай табліцы:

### Магістральныя канавы.

| Грунт | Разьмеры (у мэтрах). | Норма выпрацоўкі (у куб. мэтр) | Расцэнкі за адзінку (у капейках за куб. мэтр.) |
|---|---|---|---|
| Пясчаны | Шырыня па дну да 2, глыб. 1,5, адкос $1:1\frac{1}{2}$ | 7 | 50 |
| " | Шырыня па дну 2—3, глыбіня 1,5—2, адкос $1:1\frac{1}{2}$ . . . . . . . | 6,5 | 54 |
| " | Шырыня па дну 3—4, глыбіня 1,5—2,28, адкос $1:1\frac{1}{2}$. . . . . | 5 | 65 |
| Тарпяны | Шырыня па дну да 2, глыбіня 1,5—2, адкос 1:1 . . . . . . . | 9 | 40 |
| " | Шырыня па дну 2—3, глыбіня 1,5—2,45, адкос 1:1 . . . . . . . | 7,5 | 48 |
| " | Шырыня па дну 3—4, глыбіня 1,5—2, адкос 1:1 | 6,5 | 54 |
| Мяшаны | Шырыня па дну 2, глыбіня 1,5—2, адкос $1:1\frac{1}{2}$ . . . . . . . | 8 | 46 |
| " | Шырыня па дну 2—3, глыбіня 1,5—2, адкос $1:1\frac{1}{2}$ . . . . . . . | 7 | 50 |
| " | Шырыня па дну 3—4, глыбіня 1,5—2,25, адкос $1:1\frac{1}{2}$. . . . . . . | 6 | 58 |
| | **Калектары** | | |
| Пясчаны | Шырыня па дну—0,40, глыбіня—1,20 . . | 9 | 40 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . | 11 | 35 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . | 10 | 36 |
| | **Асушіцелі.** | | |
| Тарпяны | | 11 | 38 |
| | **Рэгуляваньне рэчак.** | | |
| Мінэральн. | Шырыня па дну 1,70—2,50, глыбіня 1,50—1,80 | 6 | 58 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . | 7 | 50 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . | 8 | 45 |
| Мінэральн. | Шырыня па дну 3,5, глыбіня 1,7—2,0 . | 5 | 70 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . | 6 | 57 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . | 7 | 50 |
| Мінэральн. | Шырыня па дну 5—7, глыбіня 1,80—2,80 . | 4,5 | 75 |
| Мяшаны | Таксама . . . . . . . | 5,5 | 68 |
| Тарпяны | Таксама . . . . . . . | 6,5 | 54 |

Пры наяўнасьці плывуноў расцэнкі, устаноўленыя па рэгуляваньні рэчак, могуць быць павялічаны паводле пастаноў РКК у кожным асобным выпадку ад 5 да 10%.

З выданьнем гэтае пастановы касуецца пастановы НК Працы БССР за 3 сакавіка 1931 г. № 12/80 „Пра ўніфікацыю аплаты працы на мэліарацыйных работах" („Сав. Беларусь" за 31/III-31 г. № 88 і Бюл. СНК БССР 1931 г. № 7, паст. 24).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**
Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня
ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**
Ст. с/г Інспэктар **Марозаў.**

25 красавіка 1931 г.
№ 16/84.

**39. Пра невыкананьне дзяржаўнымі, гаспадарчымі і каперацыйнымі арганізацыямі пастановы аб'яднанага пасяджэньня Прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б) і Калегіі НК РСІ СССР за 23/XII-1930 г. і пастановы НКП СССР за 19 студзеня 1931 г. і пастановы ЦКК і Калегіі НК РСІ БССР пра скарыстаньне адпачынкаў на працягу ўсяго году.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. За няпрыняцьце мер да выкананьня пастановы ЦКК і Калегіі НК РСІ і НК Працы аб скарыстаньні адпачынкаў на працягу ўсяго году Менскай Інспэкцыі Працы прыцягнуць да адказнасьці праз накладаньне адміністрацыйнага пакараньня адказных выканаўцаў устаноў, на падставе матарыялу абсьледваньня.

2. Прапанаваць усім установам пад адказнасьць кіраўнікоў у дэкадны тэрмін пераглядзець сьпісы ўстанаўленьня чарговасьці водпускаў з тым, каб была поўнасьцю забясьпечана бесьперабойная праца ўстановы, на падставе дырэктыў ЦКК РСІ і НК Працы.

3. Прапанаваць кіраўнікам устаноў разьмеркаваць адпачынкі сярод адказных работнікаў на працягу усяго году, ні ў якім разе не дапушчаючы парушэньня намечаных па пляну чарговых адпачынкаў.

4. Прапанаваць кіраўнікам устаноў даваць работнікам адпачынак у натуры, дапушчаючы грашовыя кампэнсацыі ў выключных выпадках пры наяўнасьці пастановы РКК.

5. Прасіць ЦСПСБ даць паказаньне адпаведным прафсаюзным арганізацыям аб правядзеньні сыстэматычнай праверкі парадку прадастаўленьня водпускаў ва ўсіх установах і нагляду за выкананьнем дырэктывы ЦКК-РСІ, НК Працы БССР аб скарыстаньні адпачынкаў на працягу ўсяго году.

6. Гарадзкой Інспэкцыі працы праз месяц праверыць выкананьне гэтае пастановы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**
Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня
ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

27 красавіка 1931 г.
№ 17/85.

### 40. Пра парадак дачы водпускаў рабочым і служачым, якія навучаюцца на вячэрніх аддзяленьнях ВНУ і тэхнікумаў.

Каб даць магчымасьць рабочым і служачым, якія днём працуюць у прадпрыемствах ці ўстановах, а пасьля работы навучаюцца на вячэрніх аддзяленьнях ВНУ і тэхнікумаў, карыстацца адпачынкам не ў час праходжаньня курсу навучаньня, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Паказаным вышэй асобам даваць чарговы водпуск абавязкова ў час вакацый у ВНУ і тэхнікумах.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **Х. Гольдзінберг.**




12 мая 1931 г.
№ 18/86.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### 41. Пра парадак выкананьня прысудаў аб высылцы.

На падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 18/I-1931 г. (З. З. БССР 1931 г. № 4, п. 26) Народны Камісарыят Юстыцыі БССР пастанаўляе ўстанавіць наступны парадак выкананьня прысудаў аб высылцы:

1. Паводле арт. арт. 38 і 39 Крым. Код. высяленьне з БССР альбо асобнай яе мясцовасьці з пасяленьнем у тэй ці іншай мясцовасьці (ссылка) можа ўжывацца судом на тэрмін ад 3 да 10 гадоў; высяленьне з БССР альбо з яе асобнай мясцовасьці без вызначэньня месца пражываньня, а таксама з забаронаю жыць у тых або іншых мясцовасьцях альбо без такой забароны (высылка), можа ўжывацца судом на тэрмін ад 1 да 5 гадоў.

2. Выкананьне прысудаў аб высылцы і ссылцы праводзіцца праз органы Кіраўніцтва Месц Зьняволеньня і Прымусовых работ НКЮ, якім суд накіроўвае копію свайго прысуду.

#### I. Высылка.

3. Асуджаныя да высылкі ў якасьці асноўной меры сацыяльнай абароны, калі яны утрымоўваліся да прысуду пад вартаю ў М/З, пасьля атрыманьня ў М/З копіі прысуду аб высылцы, з пад варты вызваляюцца і ад іх бярэцца падпіска аб тым, што яны абавязуюцца пакінуць мясцовасьць, пражываньне ў якой ім забаронена, у тыднёвы тэрмін і не зварочвацца ў працягу ўсяго вызначанага прысудам тэрміну.

Ва ўзятай ад асуджаных да высылкі з забаронаю пражываньня ў мясцовасьцях, вызначаных у прысудзе, падпісцы паказваецца і аб тым, што высылаемыя абавязуюцца не зьяўляцца у гэтай мясцовасьці ў працягу ўсяго вызначанага у прысудзе тэрміну.

Ад асуджаных да высылкі бярэцца таксама падпіска аб забароне пражываньня на ўвесь тэрмін прысуду і ў мясцовасьцях, устаноўленых НКЮ асобным сьпісам.

4. Асуджаныя да высылкі ў якасьці дадатковай меры сацыяльнай абароны, калі аснаўной мерай зьяўляецца пазбаўленьне волі, высылаюцца пасьля адбыцьця імі вызначанага тэрміну пазбаўленьня волі, парадкам, паказаным у арт. 3 гэтай інструкцыі тым М/З, у якім высылаемыя скончылі тэрмін адбыцьця пазбаўленьня волі.

5. Асуджаныя да высылкі ў якасьці асноўной меры сацыяльнай абароны, калі яны да прысуду ня ўтрымоўваюцца пад вартай, пасьля атрыманьня ў М/З копіі прысуду, выклікаюцца адпаведным М/З і высылаюцца парадкам, паказаным у арт. 3 інструкцыі.

6. Высланыя маюць права пражываць па сваіх асабістых дакумэнтах ва ўсіх другіх мясцовасьцях, пражываньне ў якіх ім не забаронена, а таксама пераяжджаць з аднэй мясцовасьці ў другую, апрача забароненых. Яны не падлягаюць ніякім відам рэгістрацыі і нагляду.

7. Нявыезд ва ўстаноўлены тэрмін з месца, адкуль асуджаны высылаецца, самавольны зварот у гэтую мясцовасьць, а таксама паяўленьне ў мясцовасьці, дзе высланаму забаронена жыць, цягне за сабою адказнасьць паводле арт. 118-а Крым. Код., пры чым вызначаная па гэтаму артыкулу мера сацыяльнай абароны ў тэрмін высылкі не залічваецца. У гэтых-жа выпадках суд абмяркоўвае пытаньне аб замене высылкі ссылкай.

8. Дазвол на часовы зварот у тую мясцовасьць, адкуль асуджаны быў выслан, дапушчаецца ў выключных выпадках, пры ўмове дастатковых для гэтага падстаў, пры дазволе ў кожным асобным выпадку пракурора той мясцовасьці, адкуль асуджаны быў выслан, і на тэрмін ня звыш 2-х месяцаў.

9. Пасьля адбыцьця асуджаным усяго тэрміну высылкі, ён мае права зьвярнуцца у месца свайго ранейшага пражываньня. а таксама застацца ў іншай мясцовасьці без усялякіх явак і рэгістрацый.

10. Нагляд за сапраўдным выкананьнем асуджаным прысуду аб высылцы, ажыцьцяўляецца органамі міліцыі і крымвышуку.

## II. Ссылка.

11. Ссылка, як правіла, ажыцьцяўляецца маршрутным (этапным) парадкам. Перавозка ссылаемых па чыгуначных і водных шляхох ажыцьцяўляецца Канвойнымі Войскамі СССР. Канваяваньне ссылаемых па пешых шляхох робіцца па ўстаноўленых маршрутах канвойнымі войскамі СССР, па іншых маршрутах—органамі міліцыі.

Увага. У асобных выпадках, з дазволу пракурорскага нагляду, выезд асуджанага да месца ссылкі можа быць дапушчаны без канвою, за ўласны рахунак асуджанага.

12. Асуджаныя да ссылкі ў якасьці асноўной меры сацыяльнай абароны, калі аны ўтрымоўваліся да вынясеньня прысуду пад вартаю, пасьля атрыманьня ў М/З прысуду аб ссылцы, пералічваюцца М/З у разрад перасыльных і ў прызначаны тэрмін накіроўваюцца ўстаноўленым парадкам пры належным адчыненым лісьце да месца прызначэньня.

13. Ссылаемыя за межы БССР накіроўваюцца ў распараджэньне

кіраўніцтва месцамі зьняволеньня краю (вобласьці) па месцу ссылкі, для рассяленьня ў межах свайго краю (вобласьці).

14. Асуджаныя да ссылкі ў якасьці дадатковай меры сацыяльнай абароны, калі асноўной мерай зьяўлялася пазбаўленьне волі, накіроўваюцца пасьля адбыцьця імі вызначанага тэрміну пазбаўленьня волі М/З у месца ссылкі парадкам, паказаным у арт. арт. 12—13 Інструкцыі, тым М/З, у якім высылаемы скончыў тэрмін адбыцьця пазбаўленьня волі.

15. Сасланыя асобы, якія схаваюцца з месца ссылкі альбо з дарогі да яго, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 118-а Крым. Код., прычым вызначаная ў гэтым выпадку мера сацыяльнай абароны у тэрмін ссылкі не залічваецца.

16. Парадак падліку асуджаных да высылкі вызначаецца асобнай Інструкцыяй НКЮ.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Я. Кроль.**

19 красавіка 1931 г.
№ 13—4.






---

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Галоўлітбел № 294. Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Зак. № 284. Тыр. 5700 экз.